


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 5 (176) САКАВІК 2014 ГОДА

**Цытата нумара:**
***Не можаце перашкодзіць таму, каб вас праглынулі, – паспрабуйце зрабіць, каб вас не маглі пераварыць***
***Жан Жак Русо***

МЯСЦОВАЯ КАМПАНІЯ

## ПАДВЯДЗЕННЕ ВЫНІКАЎ З ПАРУШЭННЕМ ЗАКАНАДАЎСТВА

**Гарадоцкая акруговая камісія №9 ўстанавіла вынікі выбараў у акрузе з парушэннем нормы Выбарчага кодэкса. Інфармацыю аб гэтым ад Віцебскай абласной камісіі атрымаў Леанід Гаравы, даверaная асоба кандыдата ў дэпутаты Віцебскага аблсавета Алёны Дзейнекі.**

Леанід Гаравы, даверaная асоба кандыдата ў дэпутаты Віцебскага аблсавета Алёны Дзейнекі, актывіст Руху "За Свабоду!", пад час назірання на Гагарынскім ўчастку №5 зафіксаваў шматлікія парушэнні нормаў выбарчага заканадаўства ў дзеяннях і рашэннях участковай камісіі, якую ўзначальвае Пётр Прасолаў.

Гэтыя парушэнні датычыліся нормаў заканадаўства, якія гарантуюць свабоду волевыяўлення грамадзян, захаванасць скрыні для датэрміновага галасавання і дакументацыі камісіі старшынёй камісіі, запрашэнне на пасяджэнне камісіі назіральнікаў, прысутнасць назіральніка пры закрыцці і ўскрыцці паперы, што павінна закрываць дзірку ў скрыні датэрміновага галасавання. Прынцыповая пазіцыя назіральніка, які адстойваў нормы выбарчага заканадаўства прывяла да таго, што Гагарынская камісія №5 раніцай 22 сакавіка правяла пасяджэнне дзеля пазбаўлення ад прынцыповага назіральніка. Участковая камісія прыняла рашэнне аб выдаленні Леаніда Гаравога, даверанай асобы кандыдата ў дэпутаты Алёны Дзейнекі, з участка да канца галасавання. Але гэта таксама з'яўляецца парушэннем заканадаўства, бо артыкул 13 ў частцы 9 надзяляе камісію толькі правам пазбаўлення акрэдытацыі назіральніка, а не яго выдалення пад час датэрміновага галасавання. Гэта новая норма Кодэкса прынятая ў 2013 годзе была не вядома ні старшыні камісіі, ні яе членам, якія аднагалосна прагаласавалі за выдаленне назіральніка без пазбаўлення акрэдытацыі.

Апошнім парушэннем заканадаўства да якога спрычыніўся старшыня камісіі перад правядзеннем пасяджэння з прыняццем незаконнага рашэння стала пазбаўлення права назіральніка Леаніда Гаравога зрабіць 21 сакавіка копію пратакола датэрміновага галасавання ў Віцебскі аблсавет з дапамогай фотаапарата. Але Пётр Прасолаў стаў перад пратаколам і сілай забараніў рабіць копію фотаапаратам.

Правядзенне выбараў са шматлікімі парушэннямі нормаў выбарчага заканадаўства стала падставай для таго, каб даверaная асоба кандыдата, звярнулася 24 сакавіка ў Гарадоцкую акруговую камісію №9 са скаргай на пазбаўленне права зрабіць копію пратакола фотаапаратам і са зваротам аб прызнанні выбараў на Гагарынскім участку №5 несапраўднымі ў сувязі са шматлікі парушэннямі нормаў выбарчага заканадаўства, якія паўплывалі на вынікі галасавання на дадзеным участку.

Нягледзячы на тое, што Выбарчы кодэкс абавязвае акруговую камісію прымаць рашэнне па скаргах і зваротах да ўстанаўлення вынікаў выбараў па акрузе, старшыня камісіі Таццяна Груганава не палічыла патрэбным 24 сакавіка прымаць рашэнне па двух зваротах даверанай асобы кандыдата. На наступны дзень Леанід Гаравы абскардзіў незаконныя дзеянні акруговай камісіі ў Віцебскай абласной камісіі.

28 сакавіка даверaная асоба кандыдата ў дэпутаты атрымала інфармацыю ад Зміцера Хомы, старшыні Віцебскай абласной камісіі, што скарга будзе разгледжана Гарадоцкай акруговай камісіяй 26 сакавіка. У другім адказе старшыня Віцебскай абласной камісіі паблытаў зварот са скаргай і паведаміў, што "скарга" пакінута акруговай камісіяй без разгляду. Пры гэтым дадзена непісьменная адпіска, якая ніякім чынам не аргументавана і лічыць яе рашэннем абласной камісіі ніяк не выпадае. Таксама Зміцер Хома ўзяў на сябе паўнамоцтвы за акруговую камісію вырашаць, што заява павінна быць пакінута без разгляду.

**Л. Антонаў**



ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

## НОВЫ ПАВАРОТ У ЛЁСЕ РЫНКА

**На мінулым тыдні прыватнікі, якія гандлююць на гарадоцкім рынку, даведаліся аб новым варыянце размяшчэнне рынка па ідэі віцебскіх чыноўнікаў.**

Амаль год мясцовыя чыноўнікі ніяк не могуць вырашыць будучыню прыватнікаў, якія гандлююць на рынку Гарадка. Першапачатковым варыянтамбыло будаўніцтва гандлёвага цэнтра Гарадоцкага райспажыўсаюза пад дахам якога магла размясціцца толькі палова прыватнікаў.

Але гэты варыянт у снежні мінулага году саступіў месца ідэі пабудаваць рынак на тэрыторыі харчовага камбіната. У прыватнасці гэтую ідэю агучвалі, як старшыня Віцебскага аблсаввета Аляксандр Ацясаў, так і старшыня аблвыканкама Аляксандр Косінец. Менавіта Косінец на выязным пасяджэннірэспубліканскагааргкамітэта "Дажынак-2014" казаў пра тое, што да 1 жніўня рынак мусіць пераехаць на тэрыторыю харчовага камбіната.

Толькі як кажуць, хутка слова кажацца, ды не хутка справа робіцца. Мы ў свой час адзначалі непрывабнасць і маларэалістычнасць гэтага варыянта. Бо рынак за межамі цэнтра Гарадка па азначэнню будзе нерэнтабельны. Па –другое, маёмасць харчовага камбіната знаходзіцца ў рэспубліканскай уласнасці і малаверагодна, што кіраўнік дзяржавы дасць дазвол на ліквідацыю актываў на 4 млрд. рублёў, якія складаюцца з 12 будынкаў камбіната.

У выніку так і атрымліваецца, што зараз у галавах абласных чыноўнікаў, як выканаўчай улады, так і аблспажыўсаюза, нарадзіўся новы варыянт пра які ім амаль з самага пачатку ўзнікнення праблемы перамяшчэння рынка казалі гарадоцкія прыватнікі. Па апошняй версіі чыноўнікаў цывілізаваны рынак павінен размясціцца на тэрыторыі Белтэлекама за аўтастанцыяй. Вырашыць дадзенае пытанне зноў даручана прадзяржаўнай струтуре–Гарадоцкамурайспажыўсаюзу. Менавіта ён мусіць быць уласнікам гэтай справы.

Як эфектыўна працуе наш райспажыўсаюз па гэтаму пытанню агульнавядома. Між тым, яму пастаўлена задача падрыхтаваць гэтае месца да жніўня. За гэты час неабходна распрацаваць праектна-сметную дакументацыю, правесці яе экспертызу ў зацікаўленых структурах і пабудаваць сам рынак. На ўсё гэта –– менш паўгода. Як кажуць -- рэспект будаўнікам, калі яны ўкладуцца ў тэрміны пры кругласуткавай працы.

На месцы існуючага рынка райспажыўсаюз будзе у рэшце-рэшт будаваць сваю краму, бо наблізілася да канца экспертыза праекта. Толькі замест нарматыўных 9 месяцаў будаўнікам давядзецца ўкладвацца ў пяць.

Сам жа існуючы рынак павінен будзе перамясціцца на вул. Спартыўную, дзе Гарадоцкі райспажыўсаюз так яшчэ і не падрыхтаваў рынак у адпаведнасці з беларускім заканадаўствам. Але акцыю перамяшчэння рынка плануюць распачаць з першага красавіка.

**Леанід Гаравы**

НАШ ГАНДАЛЬ

## АДКРЫЦЦЁ "ЕЎРАОПТА" ВЫКЛІКАЛА АЖЫЯТАЖ

**Другі дзень працы "Еўраопта" у Гарадку суправаджаўся павялічанай цікавасцю спажыўцоў да крамы і раней небачанымі ўжо не адно дзесяцігоддзе чэргамі ў краму з вуліцы.**

У суботу 22 сакавіка наведацца ў "Еўраопт" Гарадка магчыма было толькі выстаяўшы чэргу на вуліцы. Ахоўнікі крамы абмяжоўвалі наведвальнасць па колькасці кошыкаў, якія маглі атрымаць пакупнікі для набору тавара.

Павышаная цікавасць жыхароў да новай крамы прывяла да раней даўно не бачнай з'явы – чэргаў у краму з вуліцы. Такія чэргі зніклі з канца 80-х гадоў, калі знікла паняцце дэфіцыт. Але з'ява аднавілася на новым грунце – нізкіх коштаў на садавіну, якая прадаецца ў "Еўраопце". Супрацоўнікі крамы запэўніваюць пакупнікоў, што яе няспынны завоз будзе арганізаваны сваечасова.

Пры прыездзе да крамы на аўтамабілях аўтаматараў хвалюе і пытанне адсутнасці належнай паркоўкі каля крамы.

**Л. Антонаў**

БУДЗЬ ПІЛЬНЫ!

## ТРАГЕДЫЯ НА ВЫМНА

**У нядзелю 16 сакавіка дзяжурны Гарадоцкага РАУС атрымаў паведамленне пра затанулага рыбака ў Гарадоцкім раёне.**

У РАУС паведамілі аб тым, што на возеры Спартыўнае Вымна ў раёне в Хабаты магчыма затануў рыбак, бо ад яго засталася толькі скрыня і боты.

Пасля прыбыцця да месца выкліку, ратавальнікі выявілі ў месцы меркаванай лоўлі рыбы на адлегласці 150 м ад берага палонку, у якой плавалі рыбалоўная скрыня і гумавыя боты.

Для правядзення пошукавых работ 17 сакавіка раніцай да месца здарэння выехалі пошукава - манеўраная група ТРВОД і штатная вадалазная служба ПАСА УМНЗ . У 11-00 патанулы мужчына 1947 г. н быў выняты з вады.

Паважаныя рыбакі! Не аднасіцеся з пагардай да зваротаў ратавальнікаў аб небяспецы выхаду на тонкі і нетрывалы лёд, бо выпадкаў рыбалкі са смяротным зыходаў ўжо занадта шмат. Для таго, каб не папоўніць сумны спіс загінуўшых, паклапаціцеся пра ўласную бяспеку!

**Т. Гаражанка**

МЯСЦОВАЯ КАМПАНІЯ

# МАСАВАЕ ПАРУШЭННЕ СВАБОДЫ ВОЛЕВЫЯЎЛЕННЯ

**Пра падрыхтоўцы да галасавання па месцы знаходжання выбаршчыка ўчастковая камісія №5 дапусціла масавае парушэнне свабоды волевыяўлення грамадзян, збіраючы "жадаючых" прагаласаваць на дому пад час удакладнення спіса выбаршчыкаў.**

Са скаргай на рашэнне Гагарынскай камісіі №5, якое парушае свабоду волевыяўлення выбаршчыкаў, ва акружную камісію звярнуўся Леанід Гаравы, даверанная асоба кандыдата ў дэпутаты Віцебскага аблсавета Алёны Дзейнека, актывіст Руху "За Свабоду!"

Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь усталёўвае гарантыі, якія забяспечваюць свабоднае волевыяўленне грамадзян Беларусі. Артыкул 5 Выбарчага кодэкса гарантуе, што грамадзянін асабіста рашае ці ўдзельнічаць у выбарах ці не. Пры немагчымасці прыйсці на ўчастак грамадзянін па вуснай ці пісьмовай просьбе павінен паведаміць камісіі аб жаданні прагаласаваць па месцы знаходжання. Пастанова Цэнтрвыбаркама №21 пашырала гэтую магчымасць звяртання ў камісію для родзічаў і суседзяў грамадзян, якія не могуць прыйсці на ўчастак. Але ніякі нарматыўны дакумент аб выбарах не надзеляе членаў камісіі правам пры ўдакладненні спісаў выбаршчыкаў высветляць намер грамадзян удзельнічаць або не ў выбарах.

14 сакавіка пасля акрэдытацыі на ўчастку Леанід Гаравы пацікавіўся колькасцю выбаршчыкаў, якія ўжо заявілі аб сваім жаданні галасаваць па месцы знаходжання. Названная лічба -- каля 350 выбаршчыкаў здзівіла назіральніка. Бо ў чатырох папярэдніх кампаніях жадаючых галасаваць дома было ад 80 да 115 грамадзян. Але тлумачэнне сакратара камісіі Наталлі Міхаленка, што дадзены спіс складаўся членамі камісіі пры ўдакладненні спіса выбаршчыкаў за межамі памяшкання, раставіў, як кажуць, усе кропкі над І.

18 сакавіка пры закрыцці ўчастка назіральнік звярнуўся да старшыні камісіі Пятра Прасолава з просьбай паведаміць колькасць выбаршчыкаў, якія жадаюць галасаваць 23 па месцы знаходжання і паказаць апошні ліст гэтага спісу. Пётр Прасолаў катэгарычна ў гэтым адмовіў. Сітуацыя не змянілася і тады, калі Леанід Гаравы звярнуўся з адпаведнай скаргай ва ўчастковую камісію. Між тым за два дні датэрміновага галасавання ім назіраўся зварот толькі пяці грамадзян з такой просьбай.

Назіральнік лічыць, што рашэнне камісіі па складанню спіса грамадзян за межамі ўчастка для галасавання парушае асноўны прынцып правядзення выбараў -- прынцып свабоды. Адпаведна гэтага прынцыпа грамадзянін сам рашае ці ўдзельнічаць яму ў выбарах. Леанід Гаравы мяркуе, што камісія сваімі дзеяннямі парушыла прынцып свабоднага волевыяўлення грамадзян. Па назіраннях актывіста на Гагарынскім участку у чатырох папярэдніх кампаніях перад датэрміновым галасаваннем колькасць жадаючых галасаваць дома была дзесьці ад 80 да 115 чалавек.

У пададзенай скарзе назіральнік патрабуе, каб Гарадоцкая акруговая камісія прывяла дзейнасць Гагарынскай камісіі па складанню спіса выбаршчыкаў для галасавання па месцы знаходжання выбаршчыка ў адпаведнасць патрабаваннямі выбарчага заканадаўства.

**Л. Антонаў**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# ЛІКВІДАЦЫЯ ЯМЫ

**Жыхары мікраёна вуліцы Гагарына, які размяшчаецца каля універсама Гарадоцкага райспажыўсаюза, каторы год чакаюць ліквідацыі ямы, каля аўтобуснага прыпынку.**

Гэтая ямамае, магчыма сказаць, гістарычнае, паходжанне. На працягу дзесяцігоддзяў вясной і восенню жыхары мікраёна і аўтааматары, як і кіроўцы маршрутнага аўтобуса, маюць нязручнасць ад яе існавання. Жыхарам даводзіць гэтую лужыну абыходзіць па дузе, каб трапіць да аўтобуснага прыпынку. Аўтааматары таксама мусяць яе аб'язджаць, бо ў ёй магчыма завязнуць. А тыя аматары, якія не ведаюць пра існаванне гэтай ямы, па першаму снегу часам правальваюцца на ёй пад лёд.

Ужо больш дзесяцігоддзя у краіне ідзе дабраўпарадкаванне мястэчак. Але ні Гарадоцкі райвыканкам, ні дэпутат Гарадоцкага райсавета Віктар Міраш, які трэцці раз пачынае дэпутацкі тэрмін у гэтай акрузе, ніяк не падштурхоўвалі камунальнікаў да ліквідацыі ганебный ямы.

Мусіць толькі да восені дадзеная яма будзе ліквідавана у межах падрыхтоўкі да "Дажынак – 2014". Толькі жыхары мікраёна задаюць пытанне: чаму нельга засыпаць яму гравіем зараз, калі яма працягвае прыносіць нязручнасці? Бо дарожнікам да Дажынак і так давядзецца яе ліквідаваць…

**Л. Антонаў**

НАШЫ ВЁСКІ

# УДАКЛАДНІЛІ МЕЖЫ

**На Нацыянальным прававым партале з'явілася рашэнне №175 ад 25.09.2013 г. Гарадоцкага райсавета наконт удакладнення межаў сельскіх населеных пунктаў Гарадоччыны**

Цяпер у Гарадоцкім раёне засталося 350 населеных пунктаў, з якіх 9 аграгарадкоў, 2 пасёлка і адзін хутар.

Самым вялікім па плошчы населеным пунктам Гарадоччыны з'яўляецца аграгарадок Пальмінка, якая мае плошчу 216,64 га, а працягласць яе мяжы – 9км 711 метраў. Самым маленькім з'яўляецца вёска Гаране Бычыхінскага с/с – плошчай 7 сотак і з мяжой у 109 метраў.

Найбольшая колькасць вёсак у Стадалішчанскім сельсавеце – 50, Віраўлянскім с/с – 47 і Межанскім с/с – 46, а найменшая ў Пальмінскім – 19.

Агульная колькасць сельскага насельніцтва Гарадоцкага раёна з 1994 года зменшылася з 24 тысяч да 10 тысяч.

**Т. Гаражанка**

"ДАЖЫНКІ – 2014"

# «ДАЖЫНКІ» МАГЧЫМА БУДУЦЬ ТОЛЬКІ АБЛАСНЫЯ...

**Але фармат « Дажынак» будзе вызначаны пазней. Нас магчыма чакаюць толькі абласныя "Дажынкі", пра гэта напісала «Сельская газета».**

На нарадзе па гэтым пытанні А. Лукашэнкі ў прыватнасці адзначыў, што адштурхоўвацца пры падвядзенні вынікаў трэба не ад валавых аб'ёмаў вытворчасці, як гэта адбываецца цяпер, а ад эфектыўнасці продажаў і прыбытку, якую атрымліваюць сельгасарганізацыі. А таксама праводзіць рэспубліканскія «Дажынкі» пазней звычайнага, каб мець магчымасць падвесці вынікі за весь сельскагаспадарчы год.

ІДЭЯ абнаўлення галоўнага аграрнага фестывалю краіны прадыктавана патрабаваннямі часу. І «Сельская газета» на працягу паўгода абмяркоўвала на сваіх старонках гэтую тэму. Меркавання большасці нашых чытачоў шмат у чым супалі з выказаным на днях меркаваннем кіраўніка дзяржавы. Думкамі з гэтай нагоды дзяліліся двойчы Герой Сацыялістычнай Працы, былы старшыня калгаса « Савецкая Беларусь» Камянецкага раёна Уладзімір Бядуля, старшыня праўлення СВК " Агракамбінат Сноў" Нясвіжскага раёна Мікалай Радаман, машыніст -механік ЗАТ "Агракамбінат" Зара "Магілёўскага раёна Сяргей Раманенка.

Так якім быць абноўленым «Дажынак»? І ці трэба рыхтавацца да прыезду гасцей Гарадку Віцебскай вобласці , які павінен быў стаць цэнтрам Рэспубліканскага фестывалю-кірмашу ў гэтым годзе?

Як расказаў карэспандэнту « Сельской газеты» ў прэс - службе Прэзідэнта , пакуль яшчэ рана казаць пра тое, якімі стануць « Дажынкі- 2014». Савету Міністраў даручана распрацаваць іх новы фармат. Толькі пасля гэтага стане зразумела, якое свята чакае беларускіх аграрыяў.

Што тычыцца Віцебшчыны , то тут працягваюць рыхтавацца да маштабнага мерапрыемства . Па словах начальніка ўпраўлення ідэалагічнай работы , культуры і па справах моладзі Віцебскага аблвыканкама Аляксандра Кліцунова, пытанне аб «Дажынках » у Гарадку не здымаецца . Калі будзе прынята рашэнне аб ушанаванні аграрыяў з усёй рэспублікі ў Мінску, у Палацы Незалежнасці , то Гарадок прыме абласны фестываль .

Менавіта такую ідэю і выказаў Прэзідэнт : аб неабходнасці правядзення абласных «Дажынак » у райцэнтрах , а раённых - у аграгарадках.

- Гарадоцкі раён рыхтуецца да свята ў штатным рэжыме. Ёсць план работ , зацверджаны Віцебскім аблвыканкамам , так што ўсе аб'екты будуць здадзены ў намечаныя тэрміны, - дадаў начальнік аддзела арганізацыйнай і прававой работы Камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванні Віцебскага аблвыканкама Станіслаў Грэбнеў.

У агульнай складанасці ў райцэнтры плануюць прывесці ў парадак і заасфальтаваць звыш 60 вуліц і завулкаў, адрамантаваць больш за 50 жылых і некалькі дзесяткаў адміністрацыйных будынкаў. Сярод іх - фізкультурна -аздараўленчы комплекс, універмаг, кафэ, мемарыял у гонар воінаў, якія вызвалялі Гарадок, кінатэатр «Радзіма», у якім размесціцца цэнтр вольнага часу. У планах - і газіфікацыя некалькіх вёсак раёна.

І ў завяршэнні каментара. «Сельская газета» будзе сачыць за навінамі на гэты конт. Але сёння ўжо важна падкрэсліць наступнае: Прэзідэнт у чарговы раз мае рацыю, калі прапанаваў ушаноўваць працаўнікоў сельскай гаспадаркі ў Палацы Незалежнасці. Яны і на самай справе заслугоўваюць гэтага не менш, чым, скажам, спартсмены-алімпійцы або прадстаўнікі іншых прафесій. Таксама да галоўнага свята хлебаробаў можна прымеркаваць і ўручэнне ім дзяржаўных узнагарод. Гэтая ідэя даўно лунала ў паветры. Пакуль за яе ўвасабленне не ўзяўся Прэзідэнт.

**Юлія Бальшакова «СГ»**

СПАРТЫЎНАЯ НАВІНА

# ЛЕПШ ЗА ЎСІХ БЕЛАРУСАК

**У гонцы праследу ў нарвежскім Халменколене на апошнім этапе Кубка свету па біятлоне наша зямлячка Настасся Дубарэзава вышэй за іншых беларусак паднялася ў турнірнай табліцы. Гэта адбылося перш за ўсё за кошт паспяховай стральбы.**

Па выніках спрынту у Анастасіі Дубарэзавай быў другі вынік у камандзе пасля Дар'і Домрачавай, якая выйграла спрынт. Стартавала Дубарэзава пад 45-м нумарам, а за ёй яшчэ Людміла Калінчук і Анастасія Каліна. Наша зямлячка ўпершыню ў сезоне прайшла два першыя агнявыя рубяжы без промохов на стральбе лежачы, але дапусціла адзін промах на трэцім рубяжы і два на другім. У выніку Анастасія паднялася на 29-е месца - лепшае месца ў гонках праследу гэтага сезону. Людміла Калінчык, дапусціўшы чатыры промахі фінішавала 38-й, а Анастасія Каліна пры пяці промахах апынулася толькі 50-й.

Лідэр зборнай Дар'я Домрачава, стартаваўшы пад першым нумарам упэўнена была наперадзе да стральбы стоячы, дзе дапусціла па тры промахі на кожным з рубяжоў. У выніку фінішавала толькі 5-й.

Перамогу ж атрымала славацкая біятланістка Анастасія Кузьміна. На чатырох агнявых рубяжах якая стартавала 6-й Кузьміна дапусціла толькі 2 промахі). Другое месца заняла нарвежка Тура Бергер, а трэцяй фінішавала расіянка Вольга Вілухіна.

Фінка Кайса Макарайнен перамясцілася з 23-й пазіцыі на чацвёртую, але і гэта не дазволіла ёй ўтрымаць лідэрства ў агульным заліку Кубка свету. Перад апошнім стартам сезона яна саступае Туры Бергер 5 ачкоў.

Кубак свету завершыцца ў нядзелю гонкай з масавым стартам.

**Л. Антонаў**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# РАСІЯ КІДАЕ ВЫКЛІК СУСВЕТНАМУ ПАРАДКУ

**Журналіст-аналітык "Радыё Свабода" Юры Дракахруст разважае пра Крымскія падзеі.**

Прамова Уладзімера Пуціна і рашэньне Фэдэральнага сходу Расеі пра далучэньне Крыма да РФ — выклік сусьветнаму сьветапарадку.

Прэзыдэнт Расеі ў сваёй прамове спасылаўся на досьвед Косава. Але Косава не было далучанае ні да воднай заходняй краіны, яму забаранілі далучацца нават да Альбаніі. Крым далучаецца да Расеі ў якасьці яе рэгіёна. Нагадаю, гэта тое, што 12 гадоў таму Пуцін прапаноўваў Беларусі.

Да таго ж даволі злавесна прагучалі словы Пуціна наконт таго, што паўднёвыя і ўсходнія рэгіёны Украіны былі незаконна далучаныя да Украіны бальшавікамі. Ён, праўда, агаварыўся, што Расея, акрамя Крыму, больш ні на што не прэтэндуе ва Украіне.

Параўноўваць цяперашнюю палітыку Расеі з палітыкай Гітлера ў 30 гадах — можа і кепскі тон, ёсьць істотныя адрозьненьні. Але пасьля анэксіі Судэтаў нацысцкі ўрад заяўляў, што больш ні на што не прэтэндуе. Празь некалькі месяцаў пасьля гэтых заяваў вэрмахт заняў усю тэрыторыю Чэхіі, далучыўшы яе да Трэцяга Рэйху.

Абхазію і Паўднёвую Асэтыю можна было палічыць ізаляваным эпізодам. Зараз вымалёўваецца пэўная тэндэнцыя. Папросту кажучы, хто наступны? І што можа стрымаць гэты марш Расеі?

Пакуль Захад увёў толькі пэрсанальныя санкцыі адносна пары дзясяткаў расейскіх палітыкаў і урадоўцаў. Гэтыя санкцыі выглядаюць ня надта сур'ёзнымі, асабліва ў сьвятле санкцый, пад якімі знаходзіцца ўжо 3 гады афіцыйны Менск. Лукашэнка сілай разагнаў маніфэстацыю, пасадзіў некалькі дзесяткаў чалавек. У яго пад санкцыямі каля 200 чалавек, уключна зь ім самім. Расея анэксавала ладны кавалак тэрыторыі іншай дзяржавы, на якім жыве 2 мільёны чалавек. Пад санкцыі патрапіў ажно (!) 21 чыноўнік.

Аднак неабавязкова, што Захад па змаўчаньні праглыне анэксію Крыму. Ужо шмат хто адзначыў, што палітыка Пуціна — гэта вяртаньне ў ХІХ стагодзьдзе. Можа, гэта з гонарам прызнаў бы і сам прэзыдэнт Расеі, маўляў, прэч сьвет міжнароднага права, у якім вышэйшы судзьдзя — Злучаныя Штаты. Але варта прыгадаць, што ХІХ стагодзьдзе было векам шматлікіх войнаў. Так, тады ня надта клапаціліся пра міжнароднае права і ўнівэрсальныя прынцыпы. Але вельмі клапаціліся пра бясьпеку, пра захаваньне сілавога балянсу. Ёсьць пэўны сымбалізм у тым, што Пуцін гаварыў сваю прамову ў дзень, калі ў 1856 годзе скончылася Крымская вайна, якую Расея прайграла.

Адказ можа быць не прамым, але істотным. Калі Захад палічыць Расею небясьпечным ворагам, можа чакаць паступовага скарачэньня гандлю, у тым ліку і імпарту расейскіх энэрганосьбітаў, закрыцьцё доступу Расеі да сучасных тэхналёгіяў, прасоўваньне інфраструктуры НАТА бліжэй да межаў Расеі, у тым ліку і ва Украіну, росту (нарэшце) ваенных выдаткаў у краінах Эўразьвязу, якія апошнія гадоў 10 іх увесь час скарачалі.

І матыў — не парушэньне міжнароднага права, матыў — пагроза, якую ўяўляе сабой Расея, якая дазваляе сабе анэксаваць тэрыторыі суседзяў і канчатковыя мэты якой незразумелыя.

Пра гэта, дарэчы, ў разгар крызісу вакол Крыму гаварыў начальнік камітэту начальнікаў штабоў ЗША Дэмпсі, паводле яго «калі дазволіць Расеі ўрывацца ў сувэрэнныя дзяржавы, матывуючы гэта абаронай этнічных рускіх, пад пагрозай дэстабілізацыі апынецца ўся Усходняя Эўропа і Бальканы».

Вялікабрытанія і Францыя ў 1853 годзе абвясьцілі вайну Расеі не таму, што яна парушыла міжнароднае права, а таму, што ўбачылі ў яе дзеяньнях пагрозу бясьпецы ў Эўропе і Азіі. Сардэчна запрашаем у ХІХ стагодзьдзе.

Доўгатэрміновыя наступствы гэтай геапалітычнай зьмены для Беларусі — тэма асобнай размовы. Але зараз перад афіцыйным Менскам наўпроставы выклік — прызнаньне альбо непрызнаньне пашырэньня межаў саюзьніка.

Хутчэй за ўсё, беларускія ўлады будуць усяляк пазьбягаць прамога адказу. Нагадаю, што месяц таму сам Лукашэнка, а тры тыдні таму ягоны міністар замежных справаў Уладзімер Макей казалі пра прыхільнасьць тэрытарыяльнай цэласнасьці Украіны. Цяпер гэтая цэласнасьць відавочным чынам парушаная.

Зь іншага боку, паколькі Расея ўключыла Крым у свой склад, то прызнаваць Расею ў Беларусі ня мае патрэбы, яна і так яе прызнае. Мяркую, што будуць вылучацца нейкія такія аргумэнты, каб не патрапіць пад яшчэ больш глыбокую ізаляцыю, а тое і санкцыі. Магчыма, для Беларусі ўзорам будзе рэакцыя Кітаю, які ўстрымаўся ў Радзе бясьпекі ААН пры галасаваньні рэзалюцыі аб незаконнасьці крымскага рэфэрэндуму. Тым ня менш, у Пуціна ў яго прамове знайшлося добрае слова на адрас Пэкіну.

Размовы пра выклік сусветнаму сьветапарадку суправаджаюць хіба ня кожны буйны міжнародны крызіс. Але ў дадзеным выпадку, асабліва калі глядзець на рэакцыю Захаду, зьмена правілаў, па якіх жыве сьвет, сапраўды адбываецца.

Параза СССР у «халоднай вайне» ня скончылася ніякім глябальным пагадненьнем, якое б вызначала месца і ролі пераможцаў і пераможаных, новы парадак усталяваўся па змаўчаньні. Менавіта яму Расея і кідае выклік. Які будзе новы? Прыгадваецца, што ўсе мінулыя — Вэстфальскі мір, Венскі кангрэс 1814 году, Вэрсальскі мір, Ялта-Патсдам — усталёўваліся па выніках вялікіх войнаў.

**www.svaboda.org**

МЯСЦОВАЯ КАМПАНІЯ

# «ПРАВА ВЫБАРУ» ПРА ВЫНІКІ МЯСЦОВЫХ ВЫБАРАЎ

**Вынікі выбараў дэпутатаў мясцовых саветаў – несапраўдныя, заявілі прадстаўнікі кампаніі «Права выбару» на выніковай прэс-канферэнцыі.**

«Выбарчыя камісія адвольна абыходзіліся з заканадаўствам, - распавёў першы намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрась Губарэвіч. - У выніку назіраліся фальсіфікацыі, высокі ўзровень ціску на назіральнікаў: іх выдалялі з участкаў, пазбаўлялі акрэдытацыі».

Па словах сустаршыні аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Віталя Рымашэўскага, яны таксама адзначаюць, што змены заканадаўства, прынятыя восенню 2013 года, пагоршылі магчымасці апазіцыйных кандыдатаў для ўдзелу ў выбарах. «Высоўванне і рэгістрацыя кандыдаў праходзілі выключна ў няроўных умовах», - адзначыў ён для БелаПАН.

Назіральнікі, па ягоных словах зафіксавалі, «масавыя маніпуляцыі» з яўкай выбарцаў на большай частцы ўчасткаў, падлік галасоў праходзіў непразрыста, назіральнікі не маглі яго кантраляваць.

«У такіх умовах прадстаўнікі кампаніі "Права выбару" сцвярджаюць, што выбары дэпутатаў мясцовых саветаў не з'яўляюцца справядлівымі, сумленнымі і дэмакратычнымі, а іх вынікі не адлюстроўваюць сапраўднае волевыяўленне грамадзянаў. Мы не прызнаем вынікі гэтай выбарчай кампаніі», — заявіў Рымашэўскі.

«Асноўнай задачай нашай кампаніі было тое, каб на падставе канкрэтных фактаў патлумачыць выбарцам, чаму той кандыдат, за якога яны аддалі галасы, не стаў дэпутатам», - падвёў для сайту Рух.by Юрась Губарэвіч вынікі працы кампаніі «Права выбару» на мясцовых выбарах.

Па ягоных словах, яны збіраюцца даносіць гэтую інфармацыю да выбарцаў з дапамогай рознай інфармацыйнай прадукцыі – і гэта стане наступным этапам для кампаніі «Права выбару».

«Кампанія была досыць дынамічнай і была паспяховай», - заключыў Губарэвіч.




Учора, 23 сакавіка, пасля сканчэння галасавання на выбарах дэпутатаў мясцовых саветаў Беларусі, назіральнікі кампаніі «Права выбару» назіралі за працэдурай падліку галасоў на 320 выбарчых участках у 93 акругах. На 191 участку, па іх дадзеных, падлік галасоў не быў ні празрыстым, ні галосным (у тым ліку на 73 з 85 участкаў у Мінску). Пры гэтым, на 183 участках сябры камісіі не паведамлялі старшыні ўголас свае вынікі падліку (так, каб чулі астатнія сябры камісіі і назіральнікі).

Кампанія "Права выбару" праводзіцца на падставе пагаднення дэмакратычных сілаў, якое падпісалі арганізацыйны камітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», грамадзянская кампанія «Гавары праўду!», Партыя БНФ, Рух «За Свабоду», Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), Беларуская партыя «Зялёныя» і арганізацыйны камітэт па стварэнні Партыі свабоды і прагрэсу.

**http://pyx.by**

УКРАІНСКА-РАСІЙСКІ КАНФЛІКТ

# ПУЦІН ПАТЭЛЕФАНАВАЎ АБАМУ

**Прэзыдэнт Расеі Уладзімір Пуцін патэлефанаваў 28 сакавіка прэзыдэнту ЗША Бараку Абаму для абмеркаваньня амэрыканскіх прапаноў па пераадоленьні крызісу ва Ўкраіне. Гэтыя прапановы перададзены дзяржсакратаром кіраўніку МЗС Расеі ў Гаазе і распрацаваны сумесна з украінскім бокам і з эўрапейскімі партнэрамі. Пра гэта паведамляе прэс-служба Белага дома.**

Падчас размовы прэзыдэнт Абама прапанаваў, каб Расея дала канкрэтны адказ у пісьмовым выглядзе на гэтыя прапановы. Прэзыдэнты дамовіліся, што кіраўнікі дыпляматычных ведамстваў дзьвюх краін Кэры і Лаўроў сустрэнуцца, каб абмеркаваць далейшыя дзеяньні, інфармуе Белы дом.

Прэзыдэнт Абама зьвярнуў увагу свайго суразмоўцы, што ўрад Украіны захоўвае стрыманы падыход да крызісу і прасоўваецца па шляху канстытуцыйнай рэформы і дэмакратычных выбараў. Абама заклікаў Расею падтрымаць гэты працэс і пазьбягаць далейшых правакацыяў, уключаючы нарошчванне ваеннай сілы на межах з Украінай.

Прэзыдэнт ЗША заявіў прэзыдэнту Расеі, што ЗША працягваюць выступаць на карысьць дыпляматычнага вырашэньня крызісу ў цесным узаемадзеяньні з урадам Украіны і падтрымлівае ўкраінскі народ з мэтай разрадзіць крызіс. Прэзыдэнт Абама даў ясна зразумець, што гэта будзе магчымым толькі тады, калі Расея адвядзе свае войскі і ня будзе рабіць далейшых крокаў па парушэньні тэрытарыяльнай цэласнасьці і сувэрэнітэту Украіны. Амэрыканскі лідэр паўтарыў, што ЗША рашуча выступаюць супраць дзеяньняў, ужо прынятых Расеяй па парушэньні сувэрэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасьці Украіны.

Паводле паведамленьня прэс-службы Крамля, прэзыдэнт Расеі падчас тэлефоннай размовы прыцягнуў увагу прэзыдэнта ЗША да «працяглага разгулу экстрэмістаў, якія беспакарана зьдзяйсьняюць акты запалохваньня ў дачыненьні да мірных жыхароў, уладных структураў, органаў правапарадку ў розных рэгіёнах і ў Кіеве». У гэтым кантэксьце расейскі кіраўнік прапанаваў разгледзець магчымыя крокі міжнароднай супольнасьці па садзейнічаньні стабілізацыі становішча, інфармуе Крэмль.

*"Радыё Свабода"*

БЕЛАРУСЬ - ЕС

# ДАЧЫНЕНЬНІ «ЗАСТАЮЦЦА ЖУДАСНЫМІ»

**Эўрапейская камісія сёньня прэзэнтуе справаздачу аб прагрэсе паасобных краінаў у рамках праграмы «Ўсходняга партнэрства».**

У справаздачы разглядаюцца дасягненьні шасьці краінаў-суседзяў Эўразьвязу — Арменіі, Азэрбайджану, Беларусі, Грузіі, Малдовы і Украіны — а таксама адзначаюцца сфэры, дзе патрабуецца паляпшэньне.

Дакумэнт прапануе ідэі для далейшых крокаў Эўрапейскай камісіі і мае дапамагчы пры разьмеркаваньні 15,4 мільярдаў эўра, якія Эўразьвяз зьбіраецца патраціць у праграмах усходняга і паўднёвага суседзтва ў наступныя сем гадоў.

У лютым краіны Эўразьвязу абмеркавалі гэтак званы «Эўрапейскі пакет» заахвочваньняў для згаданых шасьці краінаў, якія выходзяць за рамкі цяперашніх стымулаў, акрэсьленых у Пагадненьнях аб асацыяцыі.

Грузія і Малдова распачалі працэс падрыхтоўкі да падпісаньня пагадненьняў на саміце ў Вільні летась у лістападзе і маглі б падпісаць іх яшчэ сёлета.

У разьдзеле справаздачы, прысьвечаным Беларусі, паведамляецца што дачыненьні Эўразьвязу зь Беларусьсю застаюцца жудаснымі. Да 232 грамадзянаў Беларусі надалей ужываюцца візавыя забароны і замарожаньне рахункаў. У дакумэнце адзначаецца, што эўразьвязаўская дапамога Беларусі абмежаваная ў аб'ёме і засяроджваецца «прама або ўскосна на падтрымцы патрэбаў насельніцтва і дэмакратызацыі».

ЭЗ адзначае, што агульная рэпрэсіўная палітыка ў краіне працягвалася і на працягу мінулага году, што ўлучае ісканьне палітычных зьняволеных, запалохваньне прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасьці, дробнае цкаваньне, звальненьне з працы, забарону на выезд з краіны для некаторых грамадзянаў, штрафаваньне актывістаў і зьняволеньне іх на кароткія і сярэднія тэрміны.

Брусэль, аднак, прызнае, што назіраецца і пазытыўныя зрухі ў «супрацоўніцтве Беларусі зь міжнароднай супольнасьцю па асобных праблемах, а менавіта ў справе сьмяротнага пакараньня і вышэйшай адукацыі». Эўразьвяз таксама распачаў на пачатку гэтага году перамовы зь Беларусьсю наконт спрашчэньня візавага рэжыму.

**Радыё "Свабода"**

АНЕКДОТ

Спецыяльная камісія Савета Федэрацыі Расеі вывучае легітымнасьць указа імператара Аляксандра II аб адмене прыгоннага права.

***

Прыезджы пытаецца ў чалавека на Хрышчаціку:
— Скажыце, як трапіць у расійскае консульства?
— Лепш за ўсё гранатамётам.

***

А.Кабаева абурана кажа сяброўцы:
«Слухай, ну што за народ мужыкі. Нічога даверыць нельга. Я ж у Воўкі на 8 сакавіка крэм прасіла, а не Крым! Цяпер баюся нават заікнуцца пра курткy-аляску.

ХАБАРНІЦТВА

# КАНФІСКАВАЛІ МІЛЬЁН ДОЛАРАЎ, ЗАЛАТЫЯ ЗЛІТКІ...

**Ўсім фігурантам крымінальнай справы прад'яўленыя абвінавачванні: службовым асобам - у атрыманні хабараў, прадстаўнікам суб'ектаў гаспадарання - у дачы хабараў.**

У ходзе праведзеных следчых дзеянняў па справе аб хабарніцтве службовых асоб канцэрна «Беллегпрам» канфіскаваныя грашовыя сродкі ў суме больш за 1 мільёна даляраў, залатыя злiткi, два аўтамабілі агульным коштам больш за 130 тысяч долараў, тры кватэры ў горадзе Мінску, мноства дарагой бытавой і аргтэхнікі. Пра гэта паведаміла Юлія Ганчарова, афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта Беларусі.

Прымаюцца ўсебаковыя меры па забеспячэнні кампенсацыі шкоды, нанесенай дзяржаўным інтарэсам, службовымі асобамі канцэрна "Беллегпрам". Праводзіцца работа па накладанню арышту на канфіскаваную маёмасць.

Затрыманы таксама тры хабарадавальніка - кіраўнікі камерцыйных структур, якія ўдзельнічалі ў мадэрнізацыі прадпрыемстваў канцэрна. Прадстаўнікі камерцыйных структур таксама заключаны пад варту.

Ўсім фігурантам крымінальнай справы прад'яўленыя абвінавачванні: службовым асобам - у атрыманні хабараў, прадстаўнікам суб'ектаў гаспадарання - у дачы хабараў.

Як раней паведамлялася, Следчы камітэт пачаў крымінальную справу ў дачыненні да старшыні канцэрна "Беллегпрам" і дырэктара ААТ "Слонімская камвольна - прадзільная фабрыка", якое ўваходзіць у структуру канцэрна.

Затрыманы Міхаіл Сучкоў узначаліў "Беллегпрам" у снежні 2012-га года. Раней ён узначальваў прадпрыемства, якое гучна прагучала ў некалькіх скандалах -- мінскае ААТ "Сукно" . У мінулым годзе прадпрыемства судзілася са сваімі расійскімі мінарытарыямі, а ў снежні мінулага года генеральны пракурор Беларусі Аляксандр Канюк на нарадзе ў прэзідэнта 10 снежаня раскрыў некаторыя падрабязнасці карупцыйнай справы ў ААТ " Сукно".

Праверка, праведзеная пракуратурай Мінска, ўстанавіла, што двое намеснікаў генеральнага дырэктара прадпрыемства - па вытворчасці і па юрыдычных пытаннях і кадрах - былі прынятыя на працу пры наяўнасці непагашаных судзімасцяў.

Слонімская фабрыка ў мінулым годзе згадвалася кіраўніцтвам краіны ў сувязі з планамі сур'ёзнай перабудовы камвольнай вытворчасці. У прыватнасці, як распавядаў год таму першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка, з ААТ "Камволь" у Мінску частка абсталявання вырашылі перанесці ў ААТ "Сукно" і на прадпрыемства ў Слоніме, а вызваленыя плошчы ААТ "Камволь" перадаць у распараджэнне менскіх уладаў. Паводле слоў першага віцэ-прэм'ера, рэалізацыя гэтага праекта абыйдзецца танней, чым поўная мадэрнізацыя ААТ "Камволь". "Такім чынам, мы будзем развіваць магутнасці ААТ "Сукно" і падымаем фабрыку ў Слоніме, якая будзе рабіць пражу для камвольным, гарнітурнай і трыкатажнай прадукцыі", - сказаў Уладзімір Сямашка. Не выключаецца і ўдзел у праекце замежных інвестараў.

"ЦЕНЯВАЯ СХЕМА"

# PORSCHE, BMW X5, BMW X6 І СОТНІ ТЫСЯЧ ДОЛАРАЎ НАЯЎНЫМІ

**Супрацоўнікі КДБ затрымалі арганізатараў «ценявых» схем, якія дапамагалі прадпрыемствам рэальнага сектара эканомікі ўхіляцца ад выплаты падаткаў і збораў, а таксама легалізаваць незаконныя даходы і выводзіць грошы за межы краіны.**

Абарот грашовых сродкаў на замежных рахунках падкантрольных кампаній толькі ў 2013 годзе склаў больш за 50 млрд рублёў, са спасылкай на прэс - службу КДБ паведамляе TUT.BY.

Ўзбуджаная 3 крымінальныя справы па прыкметах складу злачынства, прадугледжанага часткай 2 артыкула 243 (ухіленне ад выплаты сум падаткаў, збораў) КК Рэспублікі Беларусь у дачыненні да ўдзельнікаў злачыннай групы, а таксама кіраўніка аднаго з прадпрыемстваў.

- Узначальваемая імі камерцыйная структура асвойвала бюджэтныя грашовыя сродкі, атрыманыя за будаўнічыя работы па капітальным рамонце жылога фонду на аб'ектах ЖРЭА Партызанскага і Ленінскага раёнаў горада Мінска, а таксама за аздабленне фасада шматкватэрнага дома, што будуецца ў горадзе Жодзіна, - паведамляе прэс - служба КДБ.

Затрыманыя змешчаны ў СІЗА. У іх выключаная кампутарная тэхніка, бухгалтарскія дакументы, больш за 400 тысяч даляраў наяўных грошай. Акрамя таго накладзены арышт на дарагія аўтамабілі Porsche Cayenne, BMW X5, BMW X6, нерухомасць на агульную суму больш за 1,9 млн даляраў, а таксама грашовыя сродкі ў агульнай суме каля 300 млн рублёў на рахунках лжэпрадпрымальніцкіх структур.

Прызначаная праверка пытанняў фінансавых узаемаадносін прадпрыемстваў рэальнага сектара эканомікі з ілжэпрадпрымальніцкімі структурамі.

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 30.03.2014 у 19.45** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.